Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

14 лютага 1998 года
СУБОТА
№ 12(92)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА




## МЯСЦОВЫ

### Перронный сбор запрещен

**БАРАНОВИЧИ.** Нововведение железнодорожников о платном входе на перрон станции Барановичи-Полесские вызвал неутихающую бурю возмущений в городе. Но руководство станции не реагировало на мнения людей. Вместо того, чтобы пораскинуть умом, как лучше организовать обслуживание пассажиров, продолжало блокировать приезжающих и отъезжающих с большим багажом, заставляя их оплачивать помощь близких и прощальный поцелуй у двери вагона. Наконец эта ситуация докатилась до горисполкома. На одной из сессий депутаты меньше уделили внимания социально-экономическим вопросам, чем преславутому перронному сбору. И тогда мэр М. Я. Павлов запретил эту незаконную акцию, посоветовав железнодорожникам построить переходной мост в районе станции, который в свое время был демонтирован.

Власть сказала свое лово. Дело — за работниками станции.

### Пісьмо Прэзідэнту

**БЯРОЗА.** Мяркуемы візіт прэзідэнта Лукашэнкі ў Бярозу спрыяў развіццю эпісталярнага жанру. У рэдакцыю газеты "Маяк" і іншыя ўстановы шмат зваротаў з просьбай дапамагчы напісаць зварот да прэзідэнта. На жаль, сістэма створаная вертыкальшчыкамі, калі вырашаць самыя дробныя пытанні з усёй дзяржавы мусіць сам прэзідэнт, зусім не спрыяе сапраўднаму вырашэнню праблем. Павялічваюцца штаты правяральшчыкаў, але найчасцей за ўсё скаргі ў рэшце рэшт трапляюць для вырашэння ў рукі тых, на каго скардзяцца. Асобныя выключэнні, як гаворыцца, толькі пацвярджаюць правіла. А прэзідэнт у Бярозу пакуль не прыехаў.

● НАШ КАЛЯНДАР

## СЁННЯ – ДЗЕНЬ СВЯТОГА ВАЛЯНЦІНА



### Скарачэнне наадварот

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Ці памятаеце вы, паважаныя чытачы, як недзе ў пачатку прэзідэнцкага праўлення А. Лукашэнка ўсе газеты (вялікія і малыя, мясцовыя) пісалі аб намячаемым скарачэнні штатаў чыноўнікаў? Тады нават лічбы гэтага мяркуемага скарачэння прыводзіліся — на 30—40%.

Прайшло некалькі гадоў, эканамічны крызіс непераможаны, цэны растуць, дзяржаўны бюджэт мае шмат, як гаворыцца, дзірак. Аднак на ўтрыманне ўсё растучай арміі чыноўнікаў грошай, як паказвае наша рэчаіснасць, хапае. Мяркуйце самі. У 1993—1994 гадах апарат Івацэвіцкага райвыканкама налічваў 33 работнікі. Напачатку гэтага, 1998 года іх ва ўладнай мясцовай установе 52.

Яшчэ цікавая заўвага. У 1989 годзе ў Івацэвіцкім раёне працавала чатыры падатковыя інспектары. Цяпер дзяржаўная падатковая інспекцыя па Івацэвіцкім раёне мае некалькі дзясяткаў работнікаў і размяшчаецца на чацвёртым паверсе гасцініцы райцэнтра. Па некаторых даных для інспекцыі мяркуецца ўзвесці асобны будынак. Але, калі большая частка грамадзян раёна (прадпрымальнікі, сумяшчальнікі, зборшчыкі і здатчыкі ягад, грыбоў, лекавых траў і г. д.) будуць плаціць яшчэ падатак па выніках іх сукупнага гадавога даходу (як гэта хацелі зрабіць нядаўна), то армія і падатковых інспектараў ды і іншых чыноўнікаў, напэўна, павялічыцца. Чым больш жывем, тым больш чыноўнікаў плодзім...

*Шануя надзею*
*і з ёй маладзею,*
*З ёй веру заўсёды*
*і ведаю я, —*
*Не ў маі зялёным*
*То ў снежні*
*студзёным*
*Ты будзеш,*
*Ты будзеш,*
*Ты будзеш мая!*

*Так сны маладыя*
*Нясу праз гады я*
*Лячу за табою,*
*Як птах за вясной.*
*Ты позна ці рана*
*Палюбіш аддана,*
*Ты будзеш,*
*Ты будзеш,*
*Ты будзеш маёй!*

*Мы дні разгайдалі,*
*А сны разгадалі.*
*Усё я аддам,*
*А знайду — утрая:*
*Не ў богавым раі,*
*Але ў родным краі*
*Ты будзеш,*
*Ты будзеш,*
*Ты будзеш, мая!*

*Аляксей ЗАРЫЦКІ.*

● РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

## ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна ў мінулыя выхадныя (у тысячах руб. за адзін кілаграм) былі наступныя:*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза |
|---|---|---|---|
| Свініна | 80—90 | 80—120 | 90—120 |
| Сала салёнае | 80 | 90 | 90—120 |
| Алей (1 л) | 50—58 | 41—59 | 47—55 |
| Яйкі (1 дзесятак) | 28—30 | 25—35 | 30—35 |
| Маянэз | 12—15 | 13—17 | 12—15 |
| Мінтай с. м. | — | 62 | — |
| Селядцы вэн. | — | 80 | — |
| Цыбуля | — | 30 | 25 |
| Лімоны | — | 56—59 | 60—65 |
| Рыс | 23 | 23 | 22—24 |
| Яблыкі | 20—25 | 25—30 | 15—25 |
| Масла смет. | 70—80 | 90 | 75 |
| Бананы | — | 40 | — |
| Апельсіны | — | 45 | 45 |
| Скумбрыя с. м. | — | 41 | — |
| Макар. выраб. | 22—23 | 22—24 | 27—30 |
| Цукар | 23 | 23,5 | 24 |
| Мука | — | 16,5 | 17—18 |
| Селядцы п.п. | — | 46 | 55 |
| Грэчка | — | 26,5 | 25—28 |
| Проса | 20 | 18 | 24 |
| Соус таматны | — | 22 | 22 |

**ЗАЎВАГА**. Там, дзе стаяць прочыркі, гэтых харчовых тавараў у продажы не было. Прадпрымальнікі толькі што закончылі забастоўку, таму выбар быў вельмі абмежаваны.

### Кампутары для вучняў

**БЯРОЗА.** Абсталяванне на тры кампутарныя класы агульным коштам каля 1,5 мільярда рублёў прыйшло ў раён: 2— у белаазёрскія школы, 1 — у Першамайскую. Абсталяванне 1 класа складаецца з кампутара для настаўніка і 10 — для вучняў. Кампутары самыя сучасныя на базе PENTIUM. У РАА паведамілі, што гэта ніяк не звязана з мяркуемым наведваннем раёна Прэзідэнтам Лукашэнкам.

● НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

### Місія АБСЕ прыбыла ў Мінск

***У Мінск прыбылі прадстаўнікі назіральнай групы АБСЕ.***

Яны будуць кансультаваць беларускія ўлады ў пытаннях развіцця дэмакратычных інстытутаў у Беларусі. На 27 лютага плануецца афіцыйнае адкрыццё місіі АБСЕ, на якое павінен прыбыць дзеючы старшыня АБСЕ, міністр замежных спраў Польшчы Браніслаў Герэмэк.

### Белорусский закон о печати самый запретительный в Европе

***Во всяком случае, к такому выводу пришла Всемирная ассоциация газет, штаб-квартира которой располагается в Париже.***

Там проанализировали поправки, которые приняло к закону о печати Национальное собрание республики в конце минувшего года и которые подписал Президент Беларуси 8 января 1998 года. Пришли к выводу, что закон призван подавлять свободу слова, и выразили беспокойство по поводу того факта, что «Госкомитет по печати, будучи государственным органом, получает чрезвычайно широкие полномочия, становясь высшим арбитром в решении вопросов в области СМИ».

Профессионально разобрав по косточкам все несуразности самого запретительного закона о печати в Европе, Всемирная ассоциация газет направила протест Президенту Республики Беларусь Александру Лукашенко.

### Ці нясуць новыя цэннікі новае мяса?

***З 9 лютага ў краіне ў чарговы раз павялічаны закупачныя цэны на свініну.***

Толькі што зацверджаныя новыя закупачныя цэны выглядаюць наступным чынам: першая катэгорыя – 44 тысячы рублёў, другая – 35.200 рублёў, трэцяя – 34.100 рублёў і г. д. Ці варта ў чарговы раз чакаць свініны на прылаўках? Спецыялісты міністэрства сцвярджаюць, што новыя цэны хутчэй адпавядаюць толькі фактычным выдаткам, але наўрад ці змогуць значна падштурхнуць гаспадаркі да актыўнай здачы дзяржаве мяса. «У гэтай галіне па-ранейшаму ўладараць перакупшчыкі», — падкрэсліваюць у Мінсельгасхарчы...

### Адобраны праект закона аб пражытачным мінімуме

***Праект Закона «Аб пражытачным мінімуме ў Рэспубліцы Беларусь» атрымаў адабрэнне на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў.***

Вызначэнне пражытачнага мінімуму (мяжы беднасці) неабходна для абгрунтавання і рэалізацыі адрасных мераў сацыяльнай абароны. Цяпер у рэспубліцы да маламаёмных адносяцца сем'і і адзінокія грамадзяне, у якіх даходы не перавышаюць 60 працэнтаў сярэднедушавога сярэднямесячнага мінімальнага спажывецкага бюджэту сям'і з чатырох чалавек. Аднак гэты нарматыў не замацаваны заканадаўча і носіць чыста рэкамендацыйны характар. Прапануемы праект закона дае паняцце аб пражытачным мінімуме і стварае прававую аснову для яго выкарыстання ў сацыяльнай палітыцы.

### Затрыман чыноўнік высокага рангу

***Супрацоўнікамі Міністэрства ўнутраных спраў затрыман начальнік аддзела аграрнапрамысловых комплексаў і падсобных вытворчасцяў упраўлення справамі прэзідэнта Беларусі Валерый Папоў.***

Яго затрымалі па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага ч. 4 арт. 91 Крымінальнага кодэксу – крадзеж маёмасці ў асабліва буйных памерах. Затрыманы змешчаны ў следчы ізалятар КДБ, следства даручана весці МУС рэспублікі.

*(Па старонках рэспубліканскіх газет).*

ПАМЯЦЬ СТУКАЕ Ў СЭРЦА...

# Быў загад: «Расстраляць!»

***Сцепаніда Аляксандраўна Пястрак – жыхарка вёскі Сакоўцы, ветэран вайны і працы. Былая партызанка ўжо засталася ў вёсцы адзіным удзельнікам мінулай вайны. Што ж, час няўмольна забірае тых, хто ў час ваеннага ліхалецця знаходзіўся ў радах змагароў супраць захопнікаў, хто адстаяў свабоду і незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны.***

***С. А. Пястрак мае ўрадавыя ўзнагароды: ордэн Айчыннай вайны II ступені, некалькі медалёў.***

***Нягледзячы на свой паважаны ўзрост (а ёй ужо 82 гады), Сцепаніда Аляксандраўна добра памятае тыя ваенныя гады. Сёння мы змяшчаем яе аповяд пра той суровы час, які падрыхтаваў наш карэспандэнт С. КАЖАДУБ.***

Пры панскай Польшчы мы жылі небагата, многа бедавалі. Думалі пры савецкай уладзе ўжо трохі акрыяем, станем цвёрда на ногі. Не паспелі яшчэ абжыцца, як пачалася вайна. А ў мяне двое дзетак. Пецька большы, а Марыйцы толькі другі годзік. Куды ж дзенешся, трэба неяк жыць і дзяцей гадаваць.

Вёску сваю не пакідалі, знаходзіліся на месцы. А наша хата стала своеасаблівым штабам. Сюды прыходзілі падпольшчыкі і сувязныя. А калі восенню 1941 года ў Буленскім і Гута-Міхалінскім лясах паявіліся партызанскія групы, то часта прыходзілі і партызаны. Ведалі – усе Пестракі за савецкую ўладу будуць змагацца да канца, як наш сваяк Піліп Сямёнавіч Пястрак, які за падпольную дзейнасць 11 гадоў адсядзеў у турмах панскай Польшчы. Таму кожны член нашай сям'і быў актыўным памочнікам партызан.

Хаця ў мяне былі малыя дзеці, але і мне давалі заданні, як сувязной партызанскага атрада імя Дзімітрава. Я хадзіла ў Косава, Акунінава, Скалазубы...

Помню неяк вясной 1943 года мне даручылі пайсці ў вёску Вітараж (гэта Слонімскі раён), каб перадаць туды нейкія важныя паперы. Я схавала іх у торбачку з мукой і пайшла. Але недалёка ад той вёскі мяне спынілі немец і паліцай, абшукалі.

— А што гэта? — спыталі мяне.

— Мука, паночкі, — адказала я. – Іду да краўца. Ён дзецям адзежу шые, так нясу за работу яму, бо сказаў, каб грошы не несла.

— Сюды нельга, вяртайся назад, — загадалі яны. –Пойдзеш у вёску –будзем страляць.

Давялося вяртацца. Але ж я не пайшла дамоў, а завярнула ў другую вёску паблізу. Там даведалася, што ахоўнікі не стаяць у адным месцы, хутка яны паедуць. Так сталася і на гэты раз. Пачакаўшы трохі, я накіравалася напрасткі, як мне параіла адна жанчына. Ледзь перабралася праз глыбокую канаву, уся прамокла, аднак заданне выканала.

Але самае страшнае чакала мяне ў канцы 1943 года. Холадна ўжо стала, аднак снег яшчэ не нападаў. Усім мужчынам сакоўскім прынеслі павесткі, каб яны неадкладна з'явіліся ў нямецкую камендатуру. Але туды ніхто не пайшоў. Усе пахаваліся. Тады праз дзень у вёску на конях прыехалі пяць немцаў і два паліцаі.

Ведаў мясцовы солтыс, дзе збіраюцца вясковыя актывісты, таму і прывеў спярша «гасцей» да нашай хаты.

«Дзе твой Сашка?(муж)» – запыталі паліцаі.

«Не ведаю, — адказала я. – Яшчэ ўчора недзе пайшоў».

«Не скажаш дзе – расстраляем», — ужо са злосцю прыгразіў малады паліцай.

А другі за мяне і паставіў ля плоту пад расстрэл.

«Кажы дзе?» – не адставалі ад мяне.

« Не ведаю, паночкі, — стала плакаць я. – Я з ім пасварылася, ён набіў мяне і сышоў з дому».

А сама ведала, што Сашку паслалі ў Рацькавічы папярэдзіць мужчын, каб тыя хутчэй пакідалі свае хаты, бо едуць карнікі і літасці нікому не будзе. Якраз Мініч і Сенькін з атрада, якія вечарам былі ў нас у хаце, прывезлі такі загад.

Паліцай тым часам перакладаў старшаму немцу мой адказ.

«Хто можа пацвердзіць сказанае?» – ужо мякчэй спытаў той жа нямецкі халуй.

«А от нашы дзве суседкі. Ваду ў нашым калодзежы бяруць», — не задумваючыся адказала я.

Паклікалі суседак.

«Чулі мы, што тут крык быў і пасля таго яе Сашка пайшоў», — не разгубіліся жанчыны.

«Шчасце тваё, што суседкі пацвердзілі, — гаварыў пажылы паліцай. – Але я ўсё роўна не веру. Усе вы маніце».

Немцы паехалі па вуліцы, а паліцаі не маглі ніяк суняцца, шарылі ў хаце, напужалі дзяцей, што сядзелі на печы. Яшчэ прыгразілі, што заўтра зноў прыйдуць і калі мужа не застануць у хаце, то размова будзе кароткай.

А ноччу дзве павозкі, запрэжаныя коньмі, падкацілі да нашай хаты. Пад раніцу мы дабраліся ў Гута-Міхалінскі лес у размяшчэнне атрада імя Дзімітрава. Знаходзячыся ў лесе, я таксама выконвала заданні партызан. Зноў прыходзілася бываць у розных населеных пунктах, блізкіх і аддаленых...

Вайна – гэта заўсёды няшчасце, гора людское. І не дай Бог такому паўтарыцца і столькі перажыць, як перажылі мы, жанчыны.

КВАРТИРНЫЙ ВОПРОС

# ЧТО ХОЧУ, ТО ВОРОЧУ?..

Людмила устала. Отрешенно смотрит на меня. Нервной скороговоркой рассказывает:

— Сил уж нет... Чтобы заполучить эту несчастную однокомнатную квартирку, заработала на Барановичском комбинате сенажных башен кучу болезней. Инвалидом третьей группы стала. Из-за болезней и сократили меня... Вымотали всю душу. Профком так и сказал: вечно болеешь. Нам нужны здоровые рабочие. А где же я потеряла здоровье и силу, как не на сквозняках в цехах комбината? Я смолчала тогда... Но с очереди на квартиру не сняли. Закон за меня... Вот прошло четыре года. Построили они новый дом. С грехом пополам сдали. Моя очередь подошла. Мне говорят: иди, занимай жилплощадь. Ключи дали. Жду ордер. Ремонт делаю. Как все. И вдруг — тормоз. Сдавай, требуют, старую квартиру, в которой живу с сыном Димой, тоже однокомнатную – малосемейку... А бывшие сослуживцы посоветовали: не сдавай. У нас многие, которые имели малосемейки, получили и однокомнатные в новом доме. Сейчас две меняют на одну двух—трехкомнатную. Так улучшают свои жилищные условия. И те, кто был уволен по сокращению... Тут я и поинтересовалась у юристов. Точно! К тому же я — инвалид, и живу с сыном. Ну... это – не сдаю. Жду ордер. Все молчат. Председатель профкома Владимир Томашевский по телефону ну прямо обругал: ты нам надоела, когда работала и болела. Не дам квартиры. Сдай старую. Профком и не принял решения в мою пользу. Не знаю, как там у них шло заседание... Подруга говорит, что никаких документов, что я представила – справку об инвалидности, о том, что у сына порок сердца, — никто и не предъявил. Несправедливо это. Потому и стала я добиваться правды. Написала на гостелерадио. Там спихнули письмо председателю райкома профсоюза Михаилу Григорьевичу Гайдуку. Он и прислал ответ. Мне, директору комбината и председателю профкома. Вот: «...Администрация Барановичского комбината сенажных башен уволила Вас по пункту 1 статьи 33 КЗоТ Республики Беларусь по сокращению численности работников незаконно...» Как я ушла, на мое место сразу взяли нового контролера. Гайдук рекомендует обратиться в суд. Да я уж махнула рукой. С квартирой бы решили по совести. Райком же утверждает, читайте: «... Что касается Вашей очередности на улучшение жилищных условий, то согласно коллективного договора предприятия за работниками, уволенными с комбината сенажных башен по сокращению численности или штата работников, сохраняется право состоять на учете нуждающихся в улучшении жилищных условий... За Вашей семьей сохранена очередность...»

Она вытерла набежавшую слезу и продолжала:

— Ну что еще надо? Тем более, что другие, такие как я, получили ордера. А профком молчит. Я пошла сама. Что-то председатель пробормотал, не поднимая глаз и вытурил из кабинета... Ко мне на квартиру приходят рабочие комбината, которые далеко за мной в очереди и грозят, кулаками машут: из-за тебя мы квартиры не можем получить. Видимо, профком настраивает их против меня... Тогда я написала в Барановичский горисполком. Мне ответил зампредседателя В. А. Лозицкий: исполком не утвердил решение профкома о распределении квартир в новом доме, очень много нарушений закона. Для Томашевского и этот ответ до лампочки. Я снова в исполком. Получаю ответ за подписью первого заместителя председателя Г. И. Голубевой: «... Исполком не утвердил решение профкома и администрации комбината о выделении Вам с сыном однокомнатной квартиры со сдачей квартиры в доме для малосемейных, а предложил сохранить малосемейку и выделить квартиру по ул. Промышленной, 42. Вопрос находится на контроле в городском исполнительном комитете. Выписка из решения направлена в адрес комбината сенажных башен».

—Вы думаете Томашевский среагировал? — продолжала Лариса.— Ничуть! Мне передают: говорит, жизнь положу, а ей квартиру не дам! Я что, ему дорогу перешла? Ему что, исполком не указ? Ведь и райком профсоюза, и исполком ответы дали, основываясь на Законе! Значит, Томашевский попирает Закон и игнорирует решения властей.

Людмила Константиновна Бубен – бывшая работница комбината, как следует из вышеприведенных выдержек из официальных документов и по состоянию здоровья, имеет полное законное право на улучшение жилищных условий своей семьи. Ей же предлагают просто сменить место жительства. Без улучшений. Не знаю, какая муха укусила председателя профкома, почему помалкивает руководство предприятия, наблюдая поведение Томашевского, но наяву – грубейшее нарушение прав Бубен на жилье. И потом: что за странную позицию занял председатель профкома? Вместо того, чтобы защищать рабочих, выступает против. И еще: имеет ли право горисполком власть употребить к зарвавшемуся чиновнику, потребовать, чтобы соблюдались законные права людей, в данном случае Бубен?

Людмила Константиновна уже и в Администрацию Президента обратилась. Устно ей там подтвердили ее право на получение квартиры без сдачи малосемейной. Обещали дать письменный ответ. Куда же ей с этим «письменным ответом»? Пока местные власти не могут найти управы на председателя профкома. Может, суд докопается до истинных причин отказа Бубен в улучшении жилищных условий? И восстановит справедливость.

... Сейчас Людмила живет на таблетках. Нервы на пределе. Не спит. Плачет. Мечется по инстанциям. Пытается помочь беспомощному Закону проявить свою демократическую силу. Иначе, что это за Закон и власть его в жизнь проводящая, если председатель профкома Барановичского комбината сенажных башен Владимир Владимирович Томашевский не признает и не выполняет его?

*П. НАГНИБЕДА.*

ТАКОЕ ВОСЬ ЖЫЦЦЁ

# МІЛАСЭРНАСЦЬ з працягнутай рукой

***Клопаты аб адзінокіх састарэлых, нямоглых людзях і інвалідах – галоўная місія Івацэвіцкага таварыства Чырвонага Крыжа. Эканамічная неразбярыха ў краіне закранула і гэтую грамадскую арганізацыю. Каб праяўляць міласэрнасць, патрэбны грошы. Паколькі дзяржаўныя інтарэсы праходзяць убаку ад людскіх пакут, таварыства вымушана з працягнутай рукой збіраць ахвяраванні дзеля свайго існавання.***

Летась на рахунак таварыства пералічана 30 мільёнаў рублёў – столькі паступіла дабрачынных ахвяраванняў ад прадпрыемстваў, арганізацый, камерцыйных структур. Добра было б пайменна назваць тых, хто змог дапамагчы. Аднак не з-за сціпласці нашых людзей даводзіцца замоўчваць канкрэтныя адрасы. Мясцовыя мецэнаты не хочуць афішыравання, бо дапаможаш аднаму, як тут жа на парозе стаяць прадстаўнікі іншых таварыстваў-жабракоў. І кожнаму дай. Вось такая міласэрнасць з падпольным ухілам.

Варта, напэўна, узгадаць гуманітарную дапамогу, як прыходзіць з заходніх краін. Летась атрымана 6 грузаў на агульную суму 356 млн. 700 тысяч рублёў. Для пацярпелых ад леташняга ўрагану, што пранёсся над Целяханшчынай, раённы камітэт адправіў 50 набораў пасцельнай бялізны, 70 харчовых набораў і лекавыя сродкі на 48 мільёнаў рублёў. Гэтыя грошы выдаткавала Міжнародная федэрацыя Чырвонага Крыжа.

Міласэрнасць праяўляецца па-рознаму. Калі адны арганізацыі падыходзяць да гэтай справы неяк па-чалавечы, адказна, дык іншыя дзейнічаюць па прынцыпу «На табе, Божа, што нам нягожа». Светлагорскі цэлюлёзна-папяровы камбінат даслаў у раён сокі, дзіцячае харчаванне, жаночую вопратку і абутак. Усё новае, якаснае. Калі людзі атрымлівалі гэтыя тавары, яны шчыра радаваліся.

Незразумела, чым кіравалася дабрачынная арганізацыя «Сафія» з Мінска, калі прывезла пакамечаную, пазапіханую абы-як у мяхі вопратку. Здавалася, каму яна патрэбна. Састарэлыя людзі разабралі гэтыя анучы, яны ж у нас непераборлівыя.

— Больш за 700 нямоглых і састарэлых людзей атрымалі ў нас вопратку, што была ў карыстанні, — расказвае старшыня Івацэвіцкага раённага камітэта Чырвонага Крыжа Марына Юр'еўна Краўчэня. – Звяртаюцца да нас па дапамогу і маці-адзіночкі, і вызваленыя з установы УЖ 15/5. Нікому не адмаўляем. Не ад добрага жыцця яны шукаюць у нас падтрымкі.

У раённым камітэце працуюць дзве медыцынскія сястры — Таццяна Уладзіміраўна Герцберг і Ларыса Іванаўна Брацук. Пад апекай апошняй, напрыклад, цяпер 14 касаўчан – людзей цяжка хворых, прыкаваных да ложка.

— Работа ў іх нялёгкая, — гаворыць Марына Юр'еўна Краўчэня. – Ларысе Іванаўне даводзіцца на дзень па некалькі разоў хадзіць да сваіх падапечных, каб зрабіць уколы, перавязаць, выканаць іншыя медыцынскія працэдуры.

Марына Юр'еўна вынашвае ідэю адкрыцця медыка-сацыяльнага кабінета ў горадзе і стварэння з ліку падлеткаў атрада «Міласэрнасць». Што ж, добрыя задумкі. Яны ажыццёвяцца, калі ў былым будынку сярэдняй школы № 1 закончыцца рамонт і раённы камітэт атрымае там пакой.

*А. ЛАЎРАНЮК.*

# ПОЖИВЁМ — УВИДИМ с 16 по 22 февраля

## ПОНЕДЕЛЬНИК, 16

**БТ**

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 Резонанс.
8.50 Телебарометр.
9.05 "Сегодня с вами..."
9.45 Мультфильмы.
10.30, 18.20 "Глухарь".
11.25, 16.10, 0.15 Дневник XVIII зимних Олимпийских игр.
11.45 XVIII зимние Олимпийские игры. Хоккей. Беларусь — Швеция.
14.20 Теленавигатор.
14.40 Параграф.
15.00, 18.00, 0.45 Новости.
15.10 Видеокурс французского языка.
15.50 ТВ— школе. Музыка. 4-й класс.
16.30 Регион.
17.00 Док. фильм "Увидеть Победу".
17.35 Гости в дом.
19.20 Белорусский хит-парад.
19.25 "Сегодня с вами".
20.05 Третий тайм.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.55 XVIII зимние Олимпийские игры. Хоккей. Беларусь—Швеция.
0.30 "Понедельник с "Христофором".
1.00 Криминальная хроника.

**ОРТ**

16.10 XVIII зимние Олимпийские игры. Лыжи.
17.00, 0.25 Новости.
17.20 "Роковое наследство".
18.05 Час пик.
18.30 XVIII зимние Олимпийские игры. Сборная России — сборная Чехии.
19.05 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.40 Сериал "Полтергейст".
21.50 "Серебряный шар".
22.35 "Макаров". Худ. фильм.

**Канал "Россия"**

6.30, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.30 Вести.
7.00 Дежурная часть.
7.15 Товары — почтой.
7.20 "Стронг" представляет.
7.25 На заметку.
7.30 На зимних Олимпийских играх. Фигурное катание.
9.05, 20.25 "Санта-Барбара".
12.00, 20.00, 22.55 На зимних Олимпийских играх.
13.35 "Хищники". Детектив.
15.00 Графоман.
15.10 Деньги.
15.30 "Маленький бродяга".
16.30 Кроссворд.
17.05 На зимних Олимпийских играх. Хоккей. Канада — США.
19.30 Подробности.
19.45 Олимпийский курьер.
21.35 Довгань-шоу.

## ВТОРНИК, 17

**БТ**

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 0.05 Новости.
8.15, 19.25 "Сегодня с вами..."
8.50 Музыкальный антракт.
9.05 ТВ — школе. Музыка. 4-й класс.
9.25 Сельчане.
9.55, 18.20 "Глухарь".
10.50, 16.05, 23.30 Дневник XVIII зимних Олимпийских игр.
11.05 Бон тон.
11.35 Акколада.
12.05 Четвертое измерение.
12.30 Музыка без границ.
13.15 "Батальоны просят огня". Худ. фильм. 1-я серия.
14.20 Телеочерк.
14.40 "Макаенка, 9".
15.15 ТВ — школе. Белорусская литература. 10-й класс.
15.40 Все про все.
16.30 Уроки Н. Новожиловой.
17.00 Телеочерк.
17.25 Многоголосие.
19.20 Белорусский хит-парад.
20.05 Музыкальный салон с Элеонорой Езерской.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.55 "Смеяться — не грех".
22.15 "Нечаянная любовь". Худ. фильм.
23.45 Международные спортивные новости.
0.20 КВН. Фестиваль в Сочи.

**ОРТ**

5.00 Телеканал "Доброе утро".
8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.40 Новости.
8.15, 17.20 "Роковое наследство". Сериал.
9.00, 16.10, 22.35 XVIII зимние Олимпийские игры.
10.45 Домашняя библиотека.
11.15 Программа "Вместе".
14.20 Мультсериал.
14.55 Счастливый случай.
15.40 "Приключения Робин Гуда". Сериал.
18.05 Час пик.
18.30 Угадай мелодию.
19.00 "Тема".
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.40 "Высота". Худ. фильм.

**Канал "Россия"**

16.00, 19.00, 22.30 Вести.
16.30 История одного события.
16.45 Любовь с первого взгляда.
17.15 "Полеты во сне и наяву". Худ. фильм.
19.30 Подробности.
19.45 Олимпийский курьер.
20.25 "Санта-Барбара".
21.25 "Собачий мир".
22.00, 22.55 На зимних Олимпийских играх. Биатлон.

## СРЕДА, 18

**БТ**

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 0.20 Новости.
8.15, 19.25 "Сегодня с вами..."
8.50 Музыкальный антракт.
9.05 ТВ — школе. Белорусская литература. 10-й класс.
9.30 Бездельник.
10.00, 18.20 "Глухарь". Телесериал. .
10.55, 16.15, 23.50 Дневник XVIII зимних Олимпийских игр.
11.10 Туробъектив.
11.30 Видимо-невидимо.
12.30 "А музыка звучит..."
13.15 "Батальоны просят огня". Худ. фильм. 2-я серия.
14.25 Док. фильм.
14.35 Судьба моя и надежда.
15.15 Видеокурс французского языка.
15.45 "5x5".
16.35 Пограничье.
17.00 Монолог.
17.30 "Край". К 95-летию со дня рождения В. И. Козлова.
19.20 Белорусский хит-парад.
20.05 Королевская охота.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.55 "Смеяться — не грех".
22.15 "Синдбад". Худ. фильм.
0.05 Сделано в Беларуси.
0.35 Темная комната.

**ОРТ**

8.00, 11.00, 13.10, 17.00, 23.45 Новости.
8.15, 17.20 "Роковое наследство".
9.00, 11.40, 16.10 XVIII зимние Олимпийские игры.
10.45 Домашняя библиотека.
11.15 Программа "Вместе".
14.20 Мультсериал.
14.45 Классная компания.
15.15 Зов джунглей.
15.40 "Новые приключения Робин Гуда". Сериал.
18.05 Час пик.
18.30 "Золотая лихорадка".
19.10 Человек и закон.
19.45 "Спокойной ночи,малыши!".
20.00 Время.
20.40 Катастрофа века в фильме "Титаник". 1-я серия.
22.35 XVIII зимние Олимпийские игры. Хоккей. 1/4 финала.

**Канал "Россия"**

6.30, 10.00,13.00, 16.00, 19.00, 22.30 Вести.
7.00 Дежурная часть.
7.15 Товары — почтой.
7.20 Медицинский вестник.
7.25 На заметку.
7.30, 11.30, 22.00 На зимних Олимпийских играх.
9.05, 20.25 "Санта-Барбара".
13.35 "Геркулес возвращается". Кинокомедия.
15.00 Графоман.
15.10 Деньги.
15.30 "Маленький бродяга".
16.30 Кроссворд.
17.05 На зимних Олимпийских играх. Хоккей. 1/4 финала.
19.30 Подробности.
19.45 Олимпийский курьер.
21.25 Сам себе режиссер.
22.50 Промо.
22.55 На зимних Олимпийских играх. Горные лыжи.

## ЧЕТВЕРГ, 19

**БТ**

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 0.05 Новости.
8.15, 19.25 "Сегодня с вами..."
8.50 Премьера песни.
9.05 Гости в дом.
9.30 Авто-парк.
9.40 "Песню берите с собой". Телефестиваль.
10.35, 18.20 "Глухарь".
11.30, 16.10, 23.50 Дневник XVIII зимних Олимпийских игр.
11.45 Королевская охота.
12.20 "Золотые ключи".
13.15 "Батальоны просят огня". Худ. фильм. 3-я серия.
14.25 Многоголосие.
15.15 ТВ — школе. Изобразительное искусство. 7-й класс.
15.45 "Остров вдохновения".
16.00 Мультфильм.
16.30 Родное слово.
17.00 "Тебе поем, Господи..." Фестиваль духовных песнопений.
17.45 Док. фильм.
19.20 Белорусский хит-парад.
20.05 Акколада.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.55 "Смеяться — не грех".
22.15 "Мятеж". Худ. фильм.
0.20 Крок.

**ОРТ**

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.50 Новости.
8.15, 17.20 "Роковое наследство".
9.00, 16.10, 23.00 XVIII зимние Олимпийские игры.
11.15 Программа "Вместе".
14.20 Мультсериал "Невероятные приключения Джонни Квеста".
14.45 Классная компания.
15.10 Лего-го!
15.40 "Новые приключения Робин Гуда".
18.05 Час пик.
18.30 "Эти забавные животные".
19.05 "Белый попугай".
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.40 Катастрофа века в фильме "Титаник". 2-я серия.
22.30 Сериал "Каскадеры. Мир трюков".

**Канал "Россия"**

6.30, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.30 Вести.
7.00 Дежурная часть.
7.15 Товары—почтой.
7.20 "Стронг" представляет.
7.25 На заметку.
7.30, 11.30, 22.00, 22.55 На зимних Олимпийских играх.
9.05, 20.25 "Санта-Барбара".
13.30 "Я была на Марсе". Худ. фильм.
15.00 Графоман.
15.10 Деньги.
15.30 "Маленький бродяга".
16.30 История одного события.
17.00 Любовь с первого взгляда.
17.30 "Маклер". Худ. фильм.
19.30 Подробности.
19.45 Олимпийский курьер.
21.25 "Да, господин министр". Комедийный сериал.

## ПЯТНИЦА, 20

**БТ**

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 0.05 Новости.
8.15, 19.25 "Сегодня с вами..."
8.50 "Музыкальный антракт".
9.05 ТВ — школе. Изобразительное искусство. 7-й класс.
9.30 Бархатный сезон.
10.00, 18.20 "Глухарь".
10.55, 16.10, 23.40 Дневник XVIII зимних Олимпийских игр.
11.10 Зорная ростань. Телеконкурс молодых артистов эстрады.
11.45 АРТ-клуб.
12.30 "А музыка звучит..."
13.15 "Батальоны просят огня". Худ. фильм. 4-я серия.
14.20 Док. фильм.
14.35 Судьба моя и надежда.
15.15 Видеокурс французского языка.
15.45 Переход.
16.30 Первый фестиваль народного искусства "Беларусь—моя песня".
17.00 Уроки Н. Новожиловой.
17.35 Док. фильм.
19.20 Белорусский хит-парад.
20.05 Бездельник.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.55 "Смеяться — не грех".
22.15 "Успех как лучшая месть". Худ. фильм.
23.55 Авто-парк.
0.20 Риск-версия.

**ОРТ**

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.50 Новости.
8.15, 17.20 "Роковое наследство".
9.05, 12.05, 15.40, 22.15 XIII зимние Олимпийские игры.
11.15 Программа "Вместе".
13.25 "Играй, гармонь любимая!".
14.20 "Ералаш".
14.40 Улица Сезам.
15.10 "50x50".
18.15 Час пик.
18.45 Поле чудес.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.40 Коломбо в детективе "Дело чести".
0.35 Мистический триллер "Черная радуга".

**Канал "Россия"**

6.30, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.30 Вести.
7.00 Дежурная часть.
7.15 Товары — почтой.
7.20 "Стронг" представляет.
7.25 На заметку.
7.30, 11.30, 17.05, 22.00, 22.55 На зимних Олимпийских играх.
9.05, 20.25 "Санта-Барбара".
13.35 "Дом свиданий". Детектив.
15.00 Графоман.
15.10 Деньги.
15.30 "Маленький бродяга".
16.30 Кроссворд.
19.30 Подробности.
19.45 Олимпийский курьер.
21.25 Маски-шоу.

## СУББОТА, 21

**БТ**

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00, 15.00 Новости.
8.20 "Дом собаки". Сериал.
9.10 "Я рисую"
9.25 Мультфильм.
9.35 Здоровье.
10.00, 14.00, 23.30 Дневник XVIII зимних Олимпийских игр.
10.15 Столица.
10.35 Сущность.
11.10 "Все нормально, мама!"
11.40 Око.
12.00 Вершина мира.
12.25 Сделано в Беларуси.
12.40 Творческий вечер народного артиста Беларуси А. Ярмоленки.
14.15 Четвертое измерение.
15.15 Телебом.
16.10 "Последняя роль". Худ. фильм.
16.50 Ток-шоу "Это моя работа".
17.20 "Танкодром". Худ. фильм. Две серии.
19.45 "Из достоверных источников".
20.05 Ток-шоу "Карамболь".
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.55 "Другая женщина". Худ. фильм.
23.45 Третий тайм.
0.05 Белорусский хит-парад.
0.20 Телевизионный Дом кино.
0.45 Видимо—невидимо.

**ОРТ**

5.55 XVIII зимние Олимпийские игры.
8.40 Лотто "Миллион".
8.45 Слово пастыря.
9.00, 14.00, 17.05 Новости.
9.10 Домашняя библиотека.
9.30 Музыкальная почта.
10.05 "Каламбур".
10.40 Смак.
11.00 Возвращение Третьяковки.
11.25 "Америка с М. Таратутой"
11.55 XVIII зимние Олимпийские игры. Хоккей. Матч за 3—4-е место.
14.20 Здоровье.
14.50 Мультфильмы.
15.40 В мире животных.
16.20 "Как это было". "Ваня Солнцев — сын полка".
17.25 "Чердачок Фруттис".
18.05 Сериал "Спрут-3".
19.10 Джентльмен-шоу.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.55 "Разрушитель". Боевик.
23.05 "Золотые мгновения Олимпиады".
23.55 "Чертополох". Худ. фильм.

**Канал "Россия"**

6.00, 11.55, 21.20, 23.30 На зимних Олимпийских играх.
7.30 Утро крестьянина.
7.55 На дорогах России.
8.15 "Мак и Матли".
8.35 "Позвоните Кузе".
9.05 Доброе утро, страна!
9.50 Почта РТР.
10.15 "Это несерьезно".
12.30 "У всех на устах".
13.00, 19.00 Вести.
13.30 Люди и деньги.
14.00 Федерация.
15.00 "Закон и порядок". Телесериал.
15.50 Почта РТР.
16.00 Русский бой.
17.00 Совершенно секретно.
17.55 Моя семья.
19.35 Олимпийский курьер.
20.15 "Аншлаг" и К.

## ВОСКРЕСЕНЬЕ, 22

**БТ**

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00, 15.00 Новости.
8.15 "Дом собаки". Сериал.
9.10 Мультиклуб.
10.00, 16.45, 23.10 Дневник XVIII зимних Олимпийских игр.
10.15 Туробьектив.
10.40 "Все нормально, мама!".
11.10 "Чудеса мира". 7-я серия.
11.40 Арсенал.
12.05 "Вас вызывает Спортландия".
13.00 "Портрет жены художника". Худ. фильм.
14.25 Приглашаем на вечерки.
15.15 Сельчане.
15.40 "АРТ-клуб".
16.10 Зорная ростань.
17.05 Концерт.
18.30 Теленавигатор.
18.50 Земляки.
19.40 Колыбельная.
20.00 Резонанс.
20.50 Телебарометр.
21.05 Стадион.
21.30 "Три цвета: синий". Худ. фильм.
23.25 Премьера песни.
23.40 "В джазе только девушки".
0.05 Бархатный сезон.

**ОРТ**

7.00 Приключенческий фильм "Акваланги на дне".
8.25 "Дисней-клуб".
8.55 Спортлото.
9.00, 14.00, 22.45 Новости.
9.10 "Непутевые заметки" Дм. Крылова.
9.30 Пока все дома.
10.05 "Служу России!"
10.35 "Играй, гармонь любимая!"
11.10 XVIII зимние Олимпийские игры. Хоккей. Финал.
13.25 Смехопанорама.
14.20 Клуб путешественников.
15.05, 15.30 "Дисней-клуб".
16.00 Колесо истории.
16.50 Фестиваль команд КВН. Часть 2-я.
18.10 Торжественное закрытие XVIII зимних Олимпийских игр.
19.55 Киноафиша.
20.00 Время.
20.35 Суперфильм "300 спартанцев".
23.00 Комедия "Особенности холостяцкой вечеринки".

**Канал "Россия"**

6.00, 11.30 На зимних Олимпийских играх.
7.25 Служу Отечеству!
7.50 "Там-там".
8.45 "Позвоните Кузе!".
9.10 Доброе утро, страна!
10.00 Мир книг с Леонидом Куравлевым.
10.15 Русское лото.
11.00 Очевидное-невероятное. Век XXI.
13.00 Вести.
13.30 Пульс.
14.00 Парламентский час.
15.00 "Закон и порядок". Телесериал.
15.50 Почта РТР.
16.00 Диалоги о животных.
16.55 Сиреневый туман.
17.45 Старая квартира. 1966 год. Часть 1-я.
19.00 Зеркало.
20.05 Олимпийский курьер.
20.40 Музыкальный ринг — новое поколение.
22.20 Вовремя.
22.50 Программа "Персона".
23.50 "Испытание будущим". Худ. фильм.



**Уважаемая Светлана Александровна ПОПКО!**

**Выражаем Вам искреннее соболезнование в связи со смертью самого дорогого человека — МАТЕРИ.**

**Мы понимаем Вашу боль души и разделяем её.**

**Семья ЛЕПЕШКО (г. Ивацевичи).**

● ВАША ЗДАРОЎЕ

# «ВЯСЁЛКА» — ГЭТА ЖЫЦЦЁ»

*Фёдар Мікалаевіч Савуцін жыве ў вёсцы Рэчкі, працуе настаўнікам геаграфіі і біялогіі ў мясцовай школе. Ён — вялікі аматар прыроды. Ужо многа гадоў вывучае і збірае лячэбны грыб «Вясёлку», чагу розныя лекавыя травы, умее прыгатаваць гаючыя лякарствы, якія так патрэбны хвораму чалавеку.*

*Ф. М. Савуцін ахвотна згадзіўся адказаць на пытанні нашага карэспандэнта.*



**— Калі не сакрэт, то хацелася б пачуць ад Вас, паважаны Фёдар Мікалаевіч, як вы прыйшлі да разумення, што чалавек — часцінка прыроды і без яе жыць не можа?**

— Пачну здалёк. Нарадзіўся я і вырас на хутары. Гэта паміж Горталем і Сомінам. Ад Рэчак параўнальна недалёка. Мае тата і маці вельмі любілі прыроду, а іх у сваю чаргу далучылі да гэтага бацькі. І нас, дзяцей, таксама навучылі добрым адносінам да расліннага свету. Помню яшчэ бабка мне казала: «Ёсць сіла ў прыроды, унучак, ёсць. Захварэў — ідзі ў лес. Шукай тую травачку, якая табе дапаможа. Знайдзі тое дрэва, якое забярэ ў цябе хваробу».

Ніколі не забуду гэтых бабуліных слоў, а таксама татавых і матчыных. Калі чалавек не хоча ісці ў прыроду, цураецца яе, то яму і лякарства не дапаможа. Можаце смяяцца з мяне, але гэта так.

Яшчэ засталося ў памяці, як да дзеда і бабулі, а потым да маіх бацькоў прыходзілі людзі: хто па параду, хто па лекі, а хто проста з падзякай.

**— Я зразумеў, Фёдар Мікалаевіч, што ўсё пачалося з бацькоў. Любіць прыроду — гэта адно, а вось па-сапраўднаму далучыцца да яе, зразумець яе, як жывую істоту, знайсці ў яе багатым раслінным арсенале карыснае і гаючае і для сябе, і для людзей — гэта другое. Скажыце, калі ласка, як Вам гэта ўдаецца?**

— Так-так. Усё пачалося з бацькоў. Тое, што я раблю сёння, гэта іх заслуга. Але ж не адразу я поўнасцю аддаўся любімай справе. Была спярша вучоба ў школе ў Гортале, потым служба ў арміі. Два гады паездзіў па свеце, шукаў нейкага занятку. Працаваў і рабочым, і шафёрам. А потым да мяне дайшло, што трэба вучыцца. Высока адразу не замахваўся. Рашыў паступіць у Аршанскі тэхнікум. Задума мая спраўдзілася. Я стаў настаўнікам працы і чарчэння. Неўзабаве ажаніўся. Вось побач мая Надзея, мая верная памочніца, і дзеткі мае — Оля, Анюта, Дзіяна і Фёдар.

Пачалі сваю настаўніцкую працу ў Югалінскай школе-інтэрнаце. Я завочна вучыўся ў інстытуце. Потым і Надзея скончыла педінстытут.

Ужо ў Югаліне ў вольныя хвіліны я хадзіў у лес, многа чытаў пра розныя грыбы і травы. Зацікавіўся «Бібліяй», якая стала для мяне галоўнай кнігай, хаця я веруючы толькі ў душы.

Пераехаўшы з сям'ёй у Рэчкі, я стаў больш займацца вывучэннем грыбоў і траў. І да мяне пацягнуліся людзі: і хворыя, і здаровыя. Некаторых з іх цікавіла толькі прыгатаванае лякарства, а большасць — само прыгатаванне. Я ніколі не скуплюся на тое, што ведаю. Таму і людзям, відаць, гэта цікава.

**— Сапраўды, цікава Вас слухаць, Фёдар Мікалаевіч. Хацелася б пачуць ад Вас больш падрабязна пра малавядомы грыб «Вясёлка».**

— Я б не сказаў, што «Вясёлка» малавядомы грыб. Многія яго ўжо ведаюць, былі і публікацыі ў прэсе. Але кожны па-свойму збірае гэтыя грыбы і па-свойму гатуе лякарства.

Знешне дарослая «Вясёлка» напамінае конусападобнага смаржка. Яго можна знайсці ў кустоўі арэшніку, на высечках, дзе паявілася дзікарастучая маліна, у ліставым лесе. На сухіх месцах «Вясёлку» не знойдзеш. Пачынае расці, калі спее маліна.

**— Кажуць, што «Вясёлку» нялёгка адшукаць. Ці праўда гэта?**

— Дарослы грыб знайсці няцяжка. Ён на высокай ножцы. І пах спецыфічны. У народзе яго празвалі смярдзючкай. Дарослы грыб значна менш карысны. У самым пачатку росту «Вясёлка» падобна на курынае яйка. Вось у такой фазе росту яе трэба знайсці. А гэта, паверце, даволі цяжка, бо знаходзіцца пад лісцем ці ігліцай. Браць такі грыб трэба да ўсходу сонца, ужо вызначыўшы, што абалонка «яйка» вось-вось трэсне і грыб вельмі хутка пачне расці.

**— Такім чынам, Вы «Вясёлку» знайшлі, прынеслі дамоў. Як дзейнічаць далей, Фёдар Мікалаевіч?**

— А вельмі проста. Гэтыя грыбы мыць нельга. Трэба выцерці акуратна анучкай. Кожнае грыбное «яйка» трэба разрэзаць нажом да паловы крыж-на-крыж. У літровы шкляны слоік іх месціцца да паловы яго пяць-шэсць штук. Затым наліваем у слоік паўлітра гарэлкі (пажадана Брэсцкага разліву). Калі пасудзіна няпоўная, даліваем яшчэ 50-60 грамаў і закатваем металічнай накрыўкай.

**— Значыць, лякарства ўжо гатовае!**

На жаль, яшчэ не. Гэты слоік або слоікі трэба закапаць у зямлю на глыбіню 25-30 сантыметраў, абгарнуўшы анучкай. Толькі не плёнкай. 40 дзён гатуецца лякарства. Пасля адкопваем, адкрываем слоік, вадкасць зліваем у бутэлькі з цёмнага шкла і ставім у цёмнае і халоднае месца. Грыбы, што застаюцца на дне слоіка, выкідаць не трэба. Захоўваюцца яны як і настой.

**—Цяпер сапраўды лякарства прыгатавана. Як жа правільна распарадзіцца ім, Фёдар Мікалаевіч? Падзяліцеся, калі ласка, сваім сакрэтам.**

—Так, настой гатовы. Але спярша трэба з'есці тыя грыбы, што засталіся ў слоіку. Як і вадкасць, прымаць па адной сталовай лыжцы тры разы на дзень за 15-20 хвілін да яды. Першы курс лячэння складае 30 дзён. На яго спатрэбяцца два літровыя слоікі лекаў. Пасля гэтага робіцца перапынак на 20 дзён. Пасля яго пачынаецца другі курс лячэння, а потым, можа, і трэці... Словам, да поўнага ачуньвання.

**— А што ж можна лячыць вясёлкавым лякарствам, Фёдар Мікалаевіч?**

— Хачу адразу падкрэсліць, што лякарства гэтае лічыцца бясшкодным, проціпаказанняў не заўважана. Праўда, некаторыя хворыя не могуць прымаць настой на гарэлцы. Тады трэба гатаваць свежыя адвары на вадзе. Тут ужо іншы спосаб прыгатавання.

Што ж лячыць? Многія скардзяцца ў першую чаргу на хваробы страўніка. Пачнем з яго. Як паказала практыка, страўнік можна вылечыць (у залежнасці ад хваробы) і за адзін курс лячэння, але ж і не пашкодзіць крыху прадоўжыць, каб замацаваць станоўчы эфект.

Вясёлкавую настойку ўжываюць таксама пры лячэнні нырак, зобу, гастрытах, язвах страўніка, калітах, атлусценні, падагры. Вельмі карыснае гэта лякарства пры лячэнні апёкаў, ран, радыкуліту, экзэм, гемарояў. Прымаюць па сталовай лыжцы тры разы на дзень (у залежнасці ад вагі хворага можна змяншаць або павялічваць дозу прыёма). А таксама націраюць, змазваюць, робяць кампрэсы.

Пры грыпе і насмарку таксама выкарыстоўваюць гэты настой. Змазваюць ім нос і пераноссе. Разбаўленым растворам ( адзін да дваццаці ці трыццаці) закапваюць нос.

**— А ці кожнаму хвораму дапаможа вясёлкавы настой? Як вы думаеце, Фёдар Мікалаевіч?**

— Ведаеце, калі ён прыгатаваны з душой па такому рэцэпту, як я практыкую, то працэнт выздараўлення даволі высокі. «Вясёлка» — гэта жыццё. Неяк прынёс гэты грыб дахаты і рашыў высушыць. Парэзаў на кавалачкі. Падвячоркам зазірнуў, а тыя кавалачкі намнога большыя. Грыб расце, жыве, не зважаючы ні на што.

А цяпер, бадай, пра самае галоўнае. Для лячэння патрэбна фанатычная вера. Без веры ў сябе, у сваё выздараўленне ніякае лякарства не дапаможа, ніякая хвароба не адступіць. Без яе чалавек — пусты. Як тая труба, абрэзаная з абодвух канцоў.

І яшчэ. Я знаю, што вакол грыба «Вясёлка» развялося многа махляроў. Іх мала цікавіць лякарства з яго, лячэнне. Для іх галоўнае — грошы. Таму на базары і прадаюць гэты сушаны грыб. Мне цяжка паверыць, што ён прынясе якую-небудзь карысць.

**— І апошняе пытанне, Фёдар Мікалаевіч. Ці прымяняюць вясёлкавы настой пры ракавых захворваннях?**

— Без сумнення. Аднак сёння я яшчэ не гатовы адказаць з-за адсутнасці практыкі, ці можна вясёлкавым настоем пазбавіцца ад гэтай каварнай хваробы. Ведаю цвёрда, што ў комплексе з іншымі сродкамі ён аказвае самы дзейсны ўплыў.

**— Дзякуй, Фёдар Мікалаевіч, за гутарку. Здароўя Вам і Вашай сям'і. Новых Вам знаходак і пазнанняў у раслінным свеце нашай прыроды.**

*Гутарыў*
*С. КАЖАДУБ*

■



*НА ЗДЫМКАХ: Ф. М. Савуцін; грыб "Вясёлка". Фота А. ГАНЧУКА.*

● КРЫМІНАЛ

## ПРОВАДЫ Ў ... ТУРМУ

Гэты крадзеж адбыўся ўначы 4 лютага. Невядомыя праламалі сцяну ў будынку магазіна ў вёсцы Вулька-Целяханская і захапілі з сабой тавараў амаль на шэсць мільёнаў рублёў.

Па свежых слядах устаноўлена, што прабраліся ў магазін шляхам узлому і «атаварыліся» непаўналетнія Іван Песка і Васіль Сцяпанаў, жыхары Целяхан. Абодва нідзе не вучыліся і не працавалі.

Дарэчы, гэтыя непаўналетнія хлопцы таксама за крадзеж былі нядаўна асуджаны да пазбаўлення волі, але адтэрміноўка аддаліла іх ад турмы. І вось новае злачынства. Цяпер ужо не будзе ім ніякай адтэрміноўкі, ніякай паблажкі.

«Што ж вас, ужо асуджаных, прымусіла лезці ў магазін?» — спыталі ў хлопцаў.

«Хацелі провады зрабіць» — не задумваючыся адказалі яны. Аказваецца і ў турму сёй-той провады імкнецца справіць. Што ж, нядрэнна жывём.

*А. ГЛУШЭНЯ,*
*начальнік крымінальнага вышуку Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*

● КОНКУРСЫ

## Усім было цікава

Закончыўся яшчэ адзін, чацвёрты тур конкурсу юных знаўцаў пажарнай справы сярод вучняў пачатковых класаў сярэдніх школ. На гэты раз сваю дасведчанасць і веды ў пажарнай справе прадэманстравалі чацвёртакласнікі сярэдніх школ косаўскай зоны: вёсак Квасевічы, Заполле, Гошчава, пасёлка Зялёны Бор і г. Косава. Даволі цікавымі і на гэты раз зусім неардынарнымі былі міні-спектаклі конкурсу агітбрыгад. Асабліва высока журы ацаніла прывітанні каманд «Саламандра» Косаўскай СШ і «Агеньчык» Запалянскай СШ, у якіх дзеючымі героямі былі казачныя персанажы Баба-Яга, Кашчэй, Лясун і іншыя. Яшчэ аб вогненнай небяспецы рабятам распавядалі Бураціна і Мальвіна.

На здзіўленне многім прысутным у глядзельнай зале Косаўскага ГДК, дзе праводзіліся дзіцячыя спаборніцтвы, каманда «Агеньчык» у складзе чацвёртакласнікаў Запалянскай школы заняла першае месца. На другім — каманда «Іскра» Квасевіцкай СШ. А вось гаспадары-касаўчане, якія лідзіравалі ў аналагічным конкурсе два гады запар, занялі толькі трэцяе месца. Чацвёртымі завяршылі гульню школьнікі з Зялёнага Бору. Пятымі прыйшлі да фінішу гошчаўскія рабяты.

У рамках рэгіянальнага, адборачнага тура конкурсу юных знаўцаў пажарнай справы традыцыйна праводзіўся конкурс на лепшы малюнак супрацьпажарнай тэматыкі. Прызамі адзначаны малюнкі Генадзя Голуба, Сашы Сяргейчыка і Віталя Каралькова з Квасевіцкай СШ, Сярожы Шчурка з Запалянскай СШ, Марыны Лунь з Гошчава, Максіма Собаля з п. Зялёны Бор, касаўчан Лёшы Варанковіча і Наташы Краўцэвіч. Каманды-пераможцы за свае старанне, веды, кемлівасць і знаходлівасць атрымалі прызы. А рабяты з Запалянскага «Агеньчыка» ў дабавак праехалі па вуліцах Косава на пажарным аўтамабілі. Дзіцячая радасць была бязмежнай.

*В. МОЛАШ,*
*ст. супрацоўнік ЦНППБ АВПС-6 Івацэвіцкага раёна.*

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 13 лютага ў 9.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас".
вул. Дзяржынскага, 30, 225250, г.Івацэвічы.
Тэлефон: 8 ( 245) 2-12-29.



Тыраж 1300.
Заказ 344.